№ 1 студзень 2013 г.

*О, Беларусь, мая шыпшына,*
*Зялёны ліст, чырвоны цвет!*
*У ветры дзікім не загінеш,*
*Чарнобылем не зарасцеш.*
***Ул. Дубоўка***

# Шыпшына

***Бюлетэнь Пастаўскай раённай арганізацыі***
***Таварыства беларускай мовы імя Францыска Скарыны***

**Мова! Як сонца маё беларускае,**
**Ты свецішся словам кожным.**
*Яўгенія Янішчыц*

## *У НУМАРЫ:*

## АСНОЎНЫЯ МЕРАПРЫЕМСТВЫ ПАСТАЎСКАЙ РАЁННАЙ СУПОЛКІ ТБМ ЗА 2012 ГОД

СТУДЗЕНЬ

Сяброўская вечарына "Каляды ў ТБМ" у дзіцячай бібліятэцы

Даклад да 120-годдзя з дня нараджэння Тарашкевіча Браніслава

ЛЮТЫ

Імша ў касцёле за родную мову

Агульнанацыянальная дыктоўка ў дзіцячай бібліятэцы

Прэзентацыя кніг А. Гедэмана " Даўнія пушчы і лясы", "Друя", "Глыбокае", "Валерыянаўскія школы айцоў піяраў Лужэцкіх" у перакладзе Міхася Гіля

Міжнародны дзень роднай мовы



*Правядзенне беларускай дыктоўкі*

САКАВІК

Сустрэча з віцебскім краязнаўцам М. Піваварам, аўтарам кнігі "Краязнаўцы Віцебшчыны", ў дзіцячай бібліятэцы

Удзел у абласной канферэнцыі ТБМ у Полацку

Сяброўская вечарына з нагоды 50-годдзя з дня нараджэння Аліны Латыш, публіцыста, празаіка, актывіста Пастаўскай суполкі ТБМ

Сяброўская вечарына ў Дзень Волі. Выданне "Шыпшыны" № 3

КРАСАВІК

Адкрыццё Тыдня дзіцячай кнігі

Да 180 годдзя з дня нараджэння Альфрэда Ромэра (1832-1897), жывапісца, мастацтвазнаўцы, этнографа.

Паездка ў в. Алашкі на сядзібу І.П. Сікоры, удзел у сяброўскай талацэ па ўпарадкаванні тэрыторыі.

Выданне "Шыпшыны" № 4

ТРАВЕНЬ

Сустрэча з кіраўнікам тэлеканала Паставы-ТБ Л.Шык. Передача прапановаў ТБМ па пашырэнні беларускай мовы ў праграмах мясцовага тэлебачання

Выступленне ў Варапаеўскай і Ваўкоўскай школах

Сустрэча з намеснікам старшыні райвыканкама Ю. Кісялёвым па пытаннях развіцця беларускай мовы на Пастаўшчыне

Выступленне ў Ляхаўшчынскай і Дунілавіцкай школах

Выданне кніг "Назвы вуліц горада Паставы", "Памяткі І сусветнай вайны", "Храналогія гісторыі Пастаўскага раёна. Каляндар памятных дат 2012-2021"

Выданне "Шыпшыны" № 5

Падрыхтоўка матэрыялаў для выставы на кангрэсе Асамблеі недзяржаўных арганізацый

ЧЭРВЕНЬ

Удзел у VII кангрэсе Асамблеі беларускіх няўрадавых арганізацый у Мінску

Удзел у рабоце Тапанімічнай камісіі ТБМ (Мінск)

Выданне бюлетэня “Шыпшына № 6”

ЛІПЕНЬ

Удзел у здымках відэафільма пра Я. Купалу (сцэнарый Л. Сяменас) на тэлекампаніі “Паставы-ТБ”

Удзел у краязнаўчай канферэнцыі па Эміліі Плятэр у Германавічах

Прэзентацыя відэафільма пра Я. Купалу ў дзіцячай бібліятэцы

Выданне бюлетэня “Шыпшына № 7”

ЖНІВЕНЬ

Аўтавандроўка сяброў ТБМ па Мядзельшчыне, наведванне мясцін, звязаных з жыццём Максіма Танка



*Удзельнікі аўтавандроўкі*

Сустрэча з намеснікам старшыні райвыканкама Ю. Кісялёвым па пытаннях развіцця беларускай мовы на Пастаўшчыне

Удзел у здымках фільма пра сям”ю Фурс рэжысёра В. Мазынскага

ВЕРАСЕНЬ

Удзел у Дні беларускага пісьменства ў Глыбокім




*Дзень беларускага пісьменства ў Глыбокім*

Удзел у асвячэнні адноўленага яўрэйскага могільніка ў Камаях

Пасяджэнне ТБМ. Генацыд яўрэйскага насельніцтва. Халакост.

Удзел у Святе паэзіі і песні ў Мядзелі, прысвечаным 100-годдзю М. Танка

Здымкі фільма пра Пастаўскае педвучылішча (рэж. В. Мазынскі)

Запіс праграмы “Вертыкаль” (вядучы – І. Шушкевіч) пра стан беларускай мовы з удзелам І. Пракаповіча і Т. Захарэвіч

КАСТРЫЧНІК

Імпрэза ў ДК на вул. Станкевіча да 180-годдзя А. Ромэра, прымеркаваная да пленэру мастакоў

Удзел у сустрэчы ў камайскім касцёле, прысвечанай 180-годдзю А. Ромэра

Удзел у выставе ў “Старым млыне” па выніках мастацкага пленэру да 180-годдзя з дня нараджэння А. Ромэра

Выданне “Шыпшыны № 8 і 9”

ЛІСТАПАД

Удзел у літаратурнай вечарыне ў аддзяленні сацыяльнай адаптацыі, рэабілітацыі і дзённага знаходжання інвалідаў тэрытарыяльнага цэнтра сацыяльнага абслугоўвання насельніцтва.

СНЕЖАНЬ

Удзел у фестывалі-конкурсе аўтарскай песні ў доме рамёстваў "Стары млын"



*Выступае ансамбль «Паазер"е»*

Літаратурна-музычная вечарына ў дзіцячай бібліятэцы



*Спяваюць Стас Цыбульскі і Дар"я Гуцалюк*

Здымкі на тэлестудыі "Паставы-ТБ" пра архітэктуру г. Паставы

## НАШЫ НАВІНЫ

3 студзеня сябры пастаўскай суполкі ТБМ наладзілі сяброўскую вечарыну, прымеркаваную да Новага года і Калядаў. Спяваліся беларускія песні, гучалі беларускія жарты, ладзіліся народныя гульні.

***

14 студзеня на пасяджэнні ТБМ сябры суполкі ўшанавалі памяць Канстанцыі Буйло (сапр. Калечыц Канстанцыя Антонаўна) (1893 – 1986), беларускай паэтэсы, заслужанага дзеяча культуры Беларусі, узгадаўшы рысы яе біяграфіі і прачытаўшы яе вершы.

***

24 студзеня з паведамленнем пра падзеі паўстання 1863 года пад кіраўніцтвам К. Каліноўскага, 150-годдзе пачатку якога адзначаецца сёлета, выступіў на пасяджэнні ТБМ Вадзім Шышко.

***

Пра вядомага беларускага спевака Міхася Забэйду-Суміцкага на пасяджэнні сяброў ТБМ распавяла Людміла Сяменас. Слухачы змаглі даведацца пра яго жыццёвы і творчы шлях, а таксама паслухаць запісы песень у выкананні спевака.

***

10 лютага адбылася справаздачна-выбарная канферэнцыя раённай суполкі ТБМ, у час якой былі прааналізаваны здабыткі і недахопы ў дзейнасці арганізацыі, разгледжаны планы на бліжэйшую перспектыву. Адбыліся выбары новай Рады раённай суполкі ТБМ. У яе склад увайшлі: Ігар Пракаповіч, Людміла Сяменас, Вадзім Шышко, Міхал Гіль, Воля Лісіцкая. Старшынёй пераабраны І. Пракаповіч, намеснікам – Л. Сяменас.

Удзельнікі канферэнцыі абмеркавалі план правядзення Дня роднай мовы, літаратурна-музычнай вечарыны, прысвечанай гэтаму святу, агульнанацыянальнай дыктоўкі, а таксама сцэнар выступлення перад настаўнікамі і вучнямі Курапольскай школы.



*Людміла Сяменас*

## БУДЗЬ БЕЛАРУСАМ !

На пачатку 90-х адна паважаная мною настаўніца гісторыі абурылася: "Зноў пра мову гэту! Тут кілбасы няма, а яны пра мову". Я была непрыемна ўражаная: чым беларуская мова можа перашкодзіць з'яўленню кілбасы? Нас вучылі, што матэрыяльнае вызначае духоўнае. Але сёння з вышыні свайго жыццёвага вопыту я могу з адказнасцю сцвярджаць: духоўнае і толькі духоўнае стаіць на першым месцы і вызначае матэрыяльнае. Дарэчы, і сучасная навука спакваля прыходзіць да такой высновы. Беларусь апынулася ў нейкім зрушаным духоўным асяродку. Безумоўна, пачалося гэта не сёння, а значна раней. Менавіта тады быў не выкарыстаны шанец духоўнага яднання нацыі. На той час нацыя магла з'яднацца вакол двух стрыжняў (штандараў) – гэта рэлігія і мова. Нашы магутныя суседзі зрабілі ўсё, каб падзяліць і рэлігію, і мову: каталікі лічыліся палякамі, праваслаўныя – рускімі. Уніяцтва – нацыянальная рэлігія - было знішчана. На сённяшні дзень рэлігія ў нейкай адной канфесіі не можа аб'яднаць усю нацыю. Такая роля захавалася толькі за мовай. Шчыра, аддана яднацца людзі могуць толькі вакол духоўнай ідэі. Яднанне дзеля багацця, дабрабыту рана ці позна прывядзе да сварак, спрэчак і разборак. На жаль, такія мы, людзі. Таму духоўная ідэя адраджэння праз мову вельмі актуальная. Я цешуся, калі назіраю, што такі працэс зараз ідзе на Беларусі. Розныя людзі - рознай адукацыі, узросту, прафесій - пачынаюць гаварыць па-беларуску, вывучаць гісторыю сваёй краіны. Асабліва радуе, што гэты парыў яднае моладзь. А мозгам і сэрцам адраджэння выступае інтэлігенцыя. Засмучае толькі той факт, што афіцыйныя ўлады не толькі не падтрымліваюць такую ініцыятыву знізу, а стараюцца задушыць гэты ўздым. Чаго толькі каштуе рашэнне перавесці вывучэнне ў школах гісторыі і геаграфіі Беларусі на рускую мову! Інтэлігенцыя ў любой дзяржаве выражае прагрэсіўныя ідэі, дзякуючы якім грамадства расце духоўна і развіваецца матэрыяльна. Разумная ўлада заўжды прыслухоўваецца да голасу інтэлігенцыі. Але калі грамадства вырастае з тых штонікаў, у якіх трымае яго ўлада, штонікі проста трэскаюцца і разыходзяцца па швах. Гэты працэс балючы як для ўлады, так і для грамадства. Таму я спадзяюся, што яднанне вакол ідэі адраджэння нацыі закране мноства людзей, якія знаходзяцца пры ўладзе і могуць уплываць на прыняцце лёсавызначальных рашэнняў. У якасці прыкладу можна прывесці нашых суседзяў-літоўцаў. Яшчэ ў часы савецкага панавання нейкі высокі чыноўнік даведаўся, што пры раскопках былі знойдзены вельмі старажытныя і каштоўныя рэчы. Артыфакты, адным словам. Па законах таго часу трэба было, не марудзячы, паведаміць маскоўскім таварышам пра знаходкі. Чыноўнік ведаў, што ўсе каштоўнасці пры такім раскладзе трэба будзе аддаць у Маскву. У ім змагаліся дзве асобы: чыноўніка і літоўца. Чыноўнік ведаў, чым рызыкуе, калі не паведаміць пра знаходку. Ён мог наклікаць бяду не толькі на сябе, але і падставіць пад удар усю рэспубліку. І ў гэтай няпростай барацьбе перамог літовец. Як мы ведаем з гісторыі, ён меў рацыю. Чаго не скажаш пра беларусаў: нашы каштоўнасці на 90 працэнтаў можна сустрэць у Расіі, Літве, Польшчы, Францыі, Амерыцы. Ды дзе толькі іх не сустрэнеш! Таму так хочацца крыкнуць: "Чыноўнікі! Пара вам вырасці з лялек у чужой гульні і стаць проста беларусамі!"

Няхай жыве беларуская мова!
Няхай жыве беларуская нацыя!
Няхай жыве беларускі народ!



Вадзім Шышко

## СЛАВЯНЕ ?

На сёньняшні дзень лідарам сярод славянскіх краін з’яўляецца Расея. І на правах лідара яна намагаецца тым ці іншым чынам сабраць вакол сябе астатнія славянскія краіны.

Калі ў сітуацыю надта не ўглядацца, то ўсё гэта выглядае даволі натуральна. Да таго моманту, пакуль мы не зададзім пытаньне: а наколькі наогул сучасныя рускія з’яўляюцца славянамі?

Спачатку такое пытаньне можа падацца крыху вар’яцкім. Бо за гады расейскай і савецкай акупацыі ў нашай сьвядомасьці ўстойліва замацаваўся вобраз рускіх-славян. І нават цяпер, пасьля развалу СССР, гэты вобраз у нас і ў Расеі працягвае насаджацца. Але, зь іншага боку, у той жа самай Расеі з’яўляецца іншая інфармацыя, якая парушае агульнапрынятую парадыгму. І для гэтага дастаткова зірнуць на дадзеную мапу, складзеную самімі расейцамі.

На гэтай мапе выразна бачна першаснае засяленьне тэрыторыі сучаснай Расеі. І, у прыватнасьці, непасрэдна таго месца, дзе пасьля з’явілася Масква. Як бачна, славяне пры сваім расьсяленьні больш-менш шчыльна засялілі толькі тэрыторыі сучаснай Беларусі і Ўкраіны. Далей яны здолелі яшчэ крыху прасунуцца на ўсход за сучасны Смаленск, пасьля чаго і спыніліся. Усе ж астатнія тэрыторыі на ўсход былі заселеныя фіна-вугорскімі плямёнамі. І менавіта ў гэтых землях сёньня, лічыцца, знаходзяцца карэнныя землі сучаснай Расеі. У тым ліку і яе “сэрца” Масква.

Гэтая мапа адлюстроўвае перыяд расьсяленьня этнасаў прыкладна пад час Кіеўскай Русі. Казаць аб тым, што славяне пасьля распаду гэтай дзяржавы маглі зноў масава мігрыраваць на ўсход, будзе некарэктна. Бо пасьля распаду Кіеўскай Русі ўсе племянныя саюзы пачалі канцэнтравацца на стварэньні сваіх асабістых племянных і затым ужо этнічных (нацыянальных, у адрозьненьне ад Кіеўскай Русі) дзяржаў, а не на тым, каб зноў куды перасяліцца. Эпоха вялікага перасяленьня народаў ужо скончылася. Зразумела, нельга казаць, што сярод фіна-вугорскага насельніцтва будучай Масквы і суседніх княстваў увогуле не было славян. Яны тут з’явіліся яшчэ пад час існаваньня Кіеўскай Русі. Але гэта былі




не шматлікія перасяленцы, а зусім невялічкая колькасьць ваяроў кіеўскай дзяржавы, галоўнай задачай якіх з’яўлялася падпарадкаваньне мясцовых фінскіх плямёнаў, каб потым Кіеў мог браць зь іх даніну. З часам кіеўская дзяржава зьнікла, а прыехаўшыя славянскія ваяры засталіся.

Было іх у параўнаньні зь мясцовым фінскім насельніцтвам зусім нямнога. Але яны прынесьлі з сабой нашмат вышэйшую на той час славянскую культуру і дзяржаўную арганізацыю грамадзтва, чаго ў тагачасных фінаў яшчэ не было. Менавіта гэта і дазволіла гэтым нешматлікім славянам захаваць за сабой уладу над фінамі нават пасьля зьнікненьня сувязі (адпаведна і вайсковай падтрымкі) з метраполіяй-Кіевам...

*(óâåñü àðòûêóë áóäçå íàäðóêàâàíû ¢ äàäàò-êó äà «Øûïøûíû»)*

## Воля Лісіцкая

*Нарадзілася 28 лістапада 1962 года ў вёсцы Стары Двор Пастаўскага раёна. Скончыла Старадворскую васьмігодку, Варапаеўскую сярэднюю школу. Потым была вучоба ў Полацкім лясным тэхнікуме і Беларускім тэхналагічным інстытуце імя С. М. Кірава. Працавала ў сістэме лясной гаспадаркі, найбольш працяглы час - у Пастаўскім лясгасе.*

*Піша вершы, нарысы, сцэнарыі для творчых конкурсаў, турыстычных злётаў. Творы друкаваліся ў газетах »Пастаўскі край», «Беларуская лясная газета».*



**ЖНІВЕНЬСКАЕ ПАЛЯВАННЕ,**
**альбо У пошуках «счастья»**

*Засядзелася я ў дзеўках.*
*Шмат гадоў. І не злічыць…*
*Інтэрнэт - адна спадзеўка*
*Буду «счастье» там лавіць.*
*І на «Рамблеры», на «Майле»*
*Хлопцаў буду паляваць!*
*Вось інструкцыя на «файле».*
*Трэба доўга вывучаць.*
*Запаўняла дзень анкету,*
*Здымак школьны свой знайшла.*
*Пра сябе ўсяму свету*
*Наманіла, як змагла.*
*Я ж, вядома, не прастачка,*
*Напісала, што з Масквы.*
*Усміхнулася «ўдача» -*
*Пішуць польскія паны.*
*А з Германіі Валера,*
*З Пінску піша мне Сяргей.*
*На заморскі клічуць бераг*
*Хлопцы з поўдня ўсё часцей.*
*Піша пісьмы мне стракаты*
*Дон-Жуанчык прайдзісвет.*
*Інтэрнэт такі багаты -*
*Хлопцаў многа – «счастья нет».*
*Лебядой гарод заросшы,*
*І варэнне не вару.*
*Дзе блукаеш, мой харошы!*
*Адгукніся. Кропка. RU.*

**АДНОЙЧЫ...**

*Аднойчы, як і ты, і я засну...*
*І пакладуць мяне ў труну*
*З пагабляваных дошак,*
*І павязуць каля «Пасадніка» і плошчы.*
*І дзень той будзе светлы і харошы.*
*Сабака абарве ланцуг*
*І пеўнік пракрычыць суседскі тройчы.*
*Аднойчы ты..*
*Аднойчы я...*
*І кожны з нас аднойчы...*

*Калі ўзгадваеш,што аднойчы прыйдзе яна, зусім не рамантычная, а наадварот, халодная і абыякавая, то разумееш, які цудоуны дар – жыццё, і трэба жыць менавіта цяпер і менавіта тут, жыць і саграваць блізкіх цяплом сваіх учынкаў у гэты сцюдзёны час, час, калі набіраюць моц паўночныя вятры.*

*Восеньскі ранак саспее нясмела*
*І дакранецца да цёмнага цела*
*Зямнога.*
*Дарога*
*Промнямі сонца асвечана будзе.*
*У клопатах дня заспяшаюцца людзі....*
*Сэрца сумленнае зноў надарвецца –*
*З промнямі сонца, з зямлёю зліецца..*



*Ігар Пракаповіч*

## ЦІ НАПАЛЕОН ДАЎ НАЗВУ ПАСТАЎСКАМУ ПАРЫЖУ?

У шматлікіх публікацыях пра вёску Парыж, што на Пастаўшчыне, многія аўтары прыводзяць легенду пра тое, што назву гэтаму паселішчу даў сам Напалеон, калі спыняўся ў гэтых мясцінах у час свайго паходу на Расію. Версія гэта выглядае прывабна і заманліва, улічваючы тое, што Банапарт сапраўды праязджаў праз тэрыторыю сучаснага Пастаўскага раёна. Але на самой справе французскі імператар не меў ніякага дачынення да ўтварэння назвы: з'явілася яна значна раней. У кнізе Барталамея Гаўрыльчыка "Дэканат полацкі ў святле апісання парафій з 1784 года", якая выйшла ў свет у Беластоку ў 2005 годзе, сустракаем запіс, што ў парафіі дунілавіцкай за дзве мілі на поўнач ад дунілавіцкага касцёла знаходзіцца фальварак Парыж (Paryz), які належыць Тызенгаўзу. На той час пастаўскімі маёнткамі валодаў падскарбій надворны ВКЛ Антоній Тызенгаўз, які, магчыма, і назваў адзін са сваіх фальваркаў у гонар французскага Парыжа. Напалеону тады ішоў толькі пятнаццаты год.

Падобная сітуацыя і з назвай вёскі Барадзіно Пастаўскага раёна. Задоўга да знакамітай барадзінскай бітвы пад Масквой, яшчэ ў 1784 годзе, яна была вядома як уладанне яснай пані Варыжынай у задзеўскай парафіі свірскага дэканата.

## ПАДАННЕ ПРА ПАРЫЖ

У Пастаўскім раёне ёсць вёска з адметнай назвай – Парыж. Паводле падання, такое найменне ёй даў сам Напалеон Банапарт. А было гэта ў час вайны з французамі 1812 года.

Неяк раніцай жыхары вёскі ўбачылі, што на Сароцкай гары з'явіўся невялікі атрад казакаў. Відаць, яны меліся там адпачыць, бо рассядлалі коней, расклалі вогнішчы, пачалі варыць кашу. Але потым хутка агонь пагасілі і некуды зніклі.

Пад абед да вёскі падышлі французскія войскі. І ў гэты момант на іх з засады наляцелі казакі. Завязаўся бой. Французы занялі абарону і чакалі падмацавання. Праз дзве гадзіны, калі з боку Ласькіх пачаў набліжацца яшчэ адзін напалеонаўскі атрад, казакі былі вымушаны адступіць. Было гэта, верагодна, 4 ліпеня.

Прайшло некалькі дзён, і ў вёску ўвайшлі галоўныя сілы французскай арміі. Якраз на карэце са світай пад'ехаў Напалеон. Быў час абеду. Імператару накрылі стол на адным з узгоркаў, дзе ён і прыпыніўся. Аглядаючы навакольныя краявіды, Банапарт прыйшоў у захапленне ад убачанага.

- Якія маляўнічыя мясціны! – усклікнуў ён. – Тут прыгожа, як у парках Парыжа! Давайце назавём гэту вёсачку так: маленькі Парыж.

Наступнай раніцай вясковых жыхароў сабралі на сход. Пяць гвардзейцаў пачалі тлумачыць вяскоўцам, што цяпер іх паселішча будзе называцца Парыжам. Размову вялі праз мясцовага пана. Той перакладаў як мог. А ў канцы весела спытаў: «Ну як: згодны стаць парыжанамі?». «А што? Парыж, дык Парыж, толькі б кароў не чапалі», – адказалі сяляне.

Як сведчыць паданне, кароў французы ўсё ж забралі на патрэбы арміі, а назва засталася. Пан ад яе быў у захапленні, а сяляне паступова прывыклі.

**Шыпшына** на сайтах kamunikat.org і westki.info

*Шыпшына*

*Выданне Пастаўскай раённай арганізацыі Таварыства беларускай мовы імя Францыска Скарыны*

Адказны за нумар: Наталля Пракаповіч
Карэктар: Аліна Латыш

Адрас: 211875, горад Паставы, вул. Паркавая, 52. Тэл.: 02155-4-44-75

Вёрстка: Ігар Пракаповіч

*Рэдакцыя можа не падзяляць думкі аўтараў друкаваных матэрыялаў*

*Надрукавана на абсталяванні сяброў, распаўсюджваецца дарма*

*Наклад 100 асобнікаў*